Цана асобнага нумару 20 грош.

У гэтым нумары 6 страніц.

Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem

# На Прадвесьні

АДНАД НЁЎКА

Вільня, Чацьвер, 25-га сакавіка 1926 г.



## У восьмую гадавіну.

Паводле ўстанавіўшагася звычаю, сяньня беларускае грамадзянства сьвяткуе акт абвяшчэньня Незалежнасьці Беларусі, які адбыўся 25 сакавіка 1918 году ў Менску.

*Ня першы* гэта беларускі дзяржаўны акт, але *найдалей сягаючы*. Яшчэ 31 сьнежня 1917 году на Першым Усебеларускім Зьезьдзе ў тым-жа Менску была прынята рэзалюцыя аб утварэньні Беларускае Рэспублікі, злучанае з Усерасейскай Фэдэрацыяй, як самастойная адзінка.

Аднак, тагочасная Расея ня толькі ня прызнала гэтых актаў самавызначэньня Беларусі, але, прыпертая да сьцяны нямецкім імпэрыялізмам, падпісала міравую ўмову з немцамі ў Бярэсьці, паводле якое жывое цела Беларусі было разрэзана крывавай *мяжой* на дзьве часьціны. І вось беларускія адраджэнцы, прадстаўнікі абедзьвюх часьцін Беларусі, першы раз ад пачатку нямецкае акупацыі зышоўшыся разам у Радзе Рэспублікі ў Менску, пастанавілі—ў знак пратэсту проці падзелу іх Бацькаўшчыны — абвясьціць поўнае аддзяленьне Беларусі ад Расеі.

Было гэта якраз у той мамэнт, калі там—на Усходзе—йшчэ йшло страшэнна вострае змаганьне паміж паўстаўшымі масамі працоўных і буржуазіяй. Сацыяльная Рэвалюцыя ў першы мамэнт не хацела, ці не здалела дагледзіць магутную актыўную сілу, якая захавана ў прабуджаючымся з нацыянальнага сну і нацыянальнае няволі народзе. Павадыры расейскае рэвалюцыі тады да разьвязаньня нацыянальнага пытаньня не падыйшлі.

А якраз у тым часе на Захадзе так салодка пяяў аб волі народаў, аб новым ладзе на сьвеце, абапертым на самавызначэньні нацыянальнасьцяў, — найярчэйшы прадстаўнік буржуазнага ідэалізму, амэрыканскі прэзыдэнт Вільсон! І шмат каму выдавалася, што восьвось трэба толькі, каб беларусы падалі аб сабе голас на міравой канфэрэнцыі ў Парыжу, і будзе ім і воля, і незалежнасьць...

Два гэтыя мамэнты і адыгралі рашучую ролю ў выбары беларускімі адраджэнцамі шляху, на якім яны спадзяваліся збудаваць сваю Бацькаўшчыну.—Але хутка іх спаткала цяжкое расчараваньне.

Аказалася, што „дэмакраты“ Захаду, так многа гаварыўшыя аб праве народаў на самавызначэньне, на дзеле прызналі гэтае права толькі за тымі, за кім *ім* гэта было *выгадна*. Прызналі незалежнасьць Польшчы, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Фінляндыі. Далі ім усялякую дапамогу, каб умацаваць іх дзяржаўны быт, ды надзялілі добрымі кускамі Беларускае і Украінскае зямлі, каб гэтыя васалы вялікіх заходніх дзяржаў за такія падаркі шчыра служылі ім у іх барацьбе з вялікай пагрозай буржуазнаму сьвету, якая ўзьнялася з Усходу.

Так права беларускага і ўкраінскага народаў на самавызначэньне аказалася патаптаным заходнімі дэмакратымі...

А тым часам на Усходзе рабіліся глыбокія перамены. Вострыя пэрыяд барацьбы за новы сацыяльны лад там ужо закончыўся—і закончыўся поўнай перамогай працоўных. А разам з тым адбыўся рашучы паварот у нацыянальнай палітыцы работніцка-сялянскае ўлады. Радавая ўлада, аценіўшы тую стыхійную сілу, якую выявілі беларускі, украінскі і іншыя нацыянальныя адраджэнскія рухі, пайшла ім насустрэчу па шляху зьдзейсьненьня іх імкненьняў да дзяржаўнае самастойнасьці.

На Усходзе пачалася новая эра ў нацыянальным пытаньні. І ідэя беларускага дзяржаўнага будаўніцтва, якую патаптаў „дэмакратычны“ Захад, пачала рэалізавацца на Усходзе.

Мінулы год, калі так-званы ўрад Беларускае Народнае Рэспублікі зьліквідаваўся, закончыўшы гэтак сваё трагічнае бадзяньне па чужыне,—паказаў найлепш, як актыўныя беларускія адраджэнцы аднясьліся да гэтае новае ўлады.

Няма ніякага сумляваньня, што ў новым курсе радавае палітыкі адносна да беларусаў адыграў вялікую ролю акт 25 сакавіка 1918 году. Але гэты акт адыграў яшчэ вялікшую ролю ў прабуджэньні масавае самадзейнасьці, у так-званай *актывізацыі* беларускага народу. Усюды—на кожным шматку беларускае зямлі, пад уладай усіх дзяржаў, між якімі аказалася падзеленай Беларусь, пачалася руплівая праца ў кірунку *будаваньня Бацькаўшчыны*—перад усім шляхам тварэньня свае культуры, выпрацоўваньня вечных і непарушных падставаў нацыянальнага жыцьця.

За гэтыя восем гадоў, якія мінулі ад дня абвяшчэньня Незалежнасьці Беларусі, аднакжа значна зьмяніўся *характар* нашага „будаваньня Бацькаўшчыны“, раўнуючы да настрою 1918 году. Вера ў дапамогу заходніх дэмакратыяў, вера ў тыя пекныя словы, якія кідалі ў часе вайны прадстаўнікі заходніх буржуазных дзяржаў, — счэзла аканчальна. Яе мейсца заняла вера ў тое, што толькі *сам народ Беларускі*, толькі яго *працоўныя масы* здолеюць запраўды пакласьці моцныя фундамэнты пад свой дзяржаўны гмах. І з ідэалам чыста нацыянальным зьвязаўся гэтак неразрыўна новы ідэал — ідэал *сацыяльнага вызваленьня працоўнае Беларусі*.

Гэты сацыяльны ідэал ужо непадзельна запанаваў на Усходзе. Там толькі *праз сацыяльнае вызваленьне* перад беларусамі адкрылася магчымасьць дзяржаўнага будаўніцтва. Там—і толькі там—беларуская дзяржаўнасьць сталася *зьдзейсьненым фактам*.

Цяпер перад усім ад нас саміх — ад нашых творчых сілаў—залежыць будучына Беларусі. І сяньня, у восьмую гадавіну акту 25 сакавіка 1918 году, мы клічам усіх беларусаў напрушыць свае сілы ў кірунку *творчае нацыянальнае працы*, абапертай на нашых працоўных масах, неаддзялімай ад імкненьня гэтых масаў да *сацыянальнага вызваленьня*.

## „Аўтаномія“ для Заходняй Беларусі.

Як польскія нацыяналісты прадстаўляюць сабе „аўтаномію“ Заходняе Беларусі, аб якой так гучна дэклямуюць (ня думаючы зьдзейсьніць!) польскія „дэмакраты“,—сьведчыць запраўды бяспрыкладная па свайму цынізму прапазіцыя паслоў-эндэкаў („Związek Ludowo-Narodowy“), пададзеная ў Сойме, у справе зьмены выбарнага закону.

Эндэкі прапануюць, каб пры выбарах у Сэнат тры беларускія ваяводзтвы: Віленскае, Палескае і Наваградзкае — злучыць у адзін выбарны округ, пад той час, як кожнае польскае ваяводзтва будзе прадстаўляць самастойна выбарны округ, хоць бы было ў дзесяць разоў меншае за Заходнюю Беларусь. Польскія ваяводзтвы будуць мець ад 2 да 5 сэнатараў кожнае, а тры беларускія—разам 3...

Вось вам і „аўтаномія“ Заходняе Беларусі: яе запраўды маняцца выдзяліць у асобную адзінку, але толькі з тэй мэтай, каб яшчэ больш, ужо на падставе закону, абрэзаць яе правы.

Але ў прапазіцыі эндэкаў ёсьць і нешта для нас прыемнае: гэта—прызнаньне перад усім сьветам, што ўсе дасюлешнія заявы аб „польскасьці“ насяленьня Заходняе Беларусі прадстаўляюць адно ашуканства!.

## На парозе бюджэтнай дыскусіі.

*(Пагрозы і страхі ППС і адказ эндэцкіх міністраў)*.

Як-бы ні было сфальшавана так-званае „прадстаўніцтва народу“ ў парлямантах сучасных буржуазных дзяржаў, як-бы ні гандлявалі там—пад рознымі гучнымі лёзунгамі — інтарэсамі шырокіх масаў народу,—заўсёды раней ці пазьней, прыходзе ў жыцьці краю рашучая хвіліна, калі жыцьцё рубам ставіць перад сытымі і бесклапотнымі парляманцкімі круцялямі і махэрамі пытаньне: з народам, ці проці народу?...

І вось тады ўжо ніякі фальш надалей утрымацца ня можа: запраўднае аблічча кожнай групы саймавых „прадстаўнікоў народу“ выступае нарэшце ў-ва ўсей сваей натуральнасьці...

Такія абразы і сцэны публічнага, усенароднага выяўленьня праўдзівага аблічча разадзетых і разаздобленых у розныя пекныя лёзунгі партыяў і групаў зьяўляюцца відовішчам вельмі карысным і павучальным для народу. Бо-ж яму перад усім трэба ведаць праўду, а перад усім — праўду аб тым, хто яму шчыры прыяцель, хто яму адкрыты вораг, а хто—фарбаваны ліс-перакіньчык і здраднік...

---

Такую сцэну зьніманьня маскі з „абаронцаў сялянства“ ў асобах паноў пэпээсаў — бачылі мы ўсе ў мінулым летку, калі ў Сойме было рубам пастаўлена жыцьцём пытаньне: ці атрымае законным шляхам—праз Польскі Сойм — 20-мільённае сялянства ў Польшчы зямлю, ці—не?

І вось тады пэпээсаўская „флёндра“ (як маляўніча называе пэпээсаў „Niezależny Chłop“), якая ў часе крывавае бойні польскага сялянства 1919—1920 г. г. абяцала ўсю зямлю сялянам, навет—бяз выкупу,—зараз-жа адмылася ад лішняй чырвонай фарбы, якой манілася „звабіць“ да сябе сялянства, і—рашуча перайшла на ўтрыманьне паноў эндэкаў... Тады, дзякуючы аканчальнай здрадзе пэпээсамі сялянскай справы, зямельная рэформа была пахавана ў Сойме, збанкрутаваўшае абшарніцтва на якісь час „устабілізавана“, а беларускае і ўкраінскае сялянства—у выніку „рэформы“—мае на сваім карку за кожнага страчанага абшарніка—па сотні, а то й балей—асаднікаў...

Але ўсё гэта мела і вялікае павучальнае значэньне для сацыяльна-палітычнай сьведамасьці

ўсяго сялянства ў Польшчы. Запраўдная натура сацыялістычных сынкоў польскіх абшарнікаў выявілася да апошняй яснасьці. Высьветлілася наскрозь і запраўдная натура Польскага Сойму: ждаць ад яго зямлі для сялян—безнадзейна.

---

У часе гэтай рашучай барацьбы абшарнікаў у Польскім Сойме проці зямельнай рэформы якраз і пачалося тое перагрупаваньне сілаў у гэтым Сойме, якое ўрэшце давяло да стварэньня кіруючай цяпер краем урадавай коаліцыі (аб'яднаньня) —ад эндэкаў да пэпэсаў.

Стварыўшаяся коаліцыя мае выразна **проці-сялянскі характар**.—Настрашаныя збудзіўшымся ад сну і дурману магутным імкненьнем яго да зямлі, усе абшарніцка-буржуазныя польскія партыі, не выключаючы і „сацыялістычнай", пайшлі, адкінуўшы ў бок другарадныя розьніцы, на так-званы „кампраміс"—на „міравую". У гэтым „кампрамісе" збанкрутаваўшая польская буржуазія, каб яшчэ ўтрымацца надалей, абаперлася на правадыроў ППС, значыць на тэй партыі, якая якраз мусіла-б бараніць ад буржуазіі зруйнаваную апошняй польскую работніцкую клясу...

За першай здрадай — здрадай збанкрутаваўшымі польскімі сацыялістамі **сялянскай справы**, — як няўхільны другі крок, мусіла прыйсьці і здрада тымі-ж банкрутамі **справы работніцкай**... І пад той час, як першая здрада іх „устабілізавала" абшарніцтва, другая мела мэтай „устабілізаваць" капіталістычную прамысловасьць ці — панаваньне буржуазіі ў Польшчы...

---

Польская буржуазія, умацаваўшыся,—дзякуючы коаліцыі з пэпэсамі!— **сацыяльна і палітычна**, цяпер зажадала ад прадаўшыхся ёй пэпэсаў далейшых ахвяраў—коштам работніцкай клясы! — каб умацавацца **эканамічна**... На ўсе пекныя гутаркі панкоў польскага сацыялізму — у родзе п. Недзялковскага, што, „пралетарыят расьце і аджывае аднача́сна і разам з буржуазіяй",—аджыўшая крыху і ўзмацаваўшаяся польская буржуазія заяўляе, што яна можа хутка зусім паправіцца і прыйсьці „да цела", дый вывезьці з крызісу край, але толькі... коштам пралетарыяту, толькі шляхам **скасаваньня ўсіх так-званых „сацыяльных здабычаў" работніцкай клясы ў Польшчы, як 8-гадзінны дзень працы, установы сацыяльнай апекі, Касы Хворых і т. п.**

І вось надыйшоў цяпер нарэшце і тут для пэпэсаў такі самы рашучы мамэнт, аб якім мы казалі напачатку: мамэнт, калі яны павінны будуць выразна і адкрыта паказаць свой „работніцкі твар", як улетку паказалі ўжо—„сялянскі"...

У часе бюджэтнай дыскусіі і павінна будзе выявіцца, каго выбярэ ППС аканчальна: работніка, ці капіталіста? Выкручвацца, махляваць, служыць „і нашым і вашым"—далей ужо нельга!

---

Справа вось у чым. Як ні круцілі сваімі коаліцыйнымі галоўкамі паны польскія міністры на чале з п. Зьдзеховскім, як ні рэзалі пэнсіі сваім працаўнікам паны Грабскія, як ні зьмяншалі выдаткі на школы, а навет — на войска, — усё-ж у польскім дзяржаўным бюджэце на 1926 г. будзе вялізарная дзіра: недахват **двухсот — а мо' й да чатырохсот!- мільёнаў злотых**...

Сам мін. Зьдзеховскі толькі што яшчэ раз сцьвярдзіў, што маючы гэткую дзіру ў бюджэце, рахаваць на заграні́чную пазыку — **безнадзейна**. Гэтым ён адкрыта прызнаў, што, каб залатаць гэтую дзіру,—трэба знайсьці у краі... З каго зьдзерці на гэтую мэту скуру...

Усе польскія патрыёты, аб'яднаныя ў коаліцыі, даўно ўжо зыйшліся на тым, што найлягчэй гэтую скуру зьдзіраць з сялянства... Але, нажаль, з сялянства ўжо няма чаго драць. Дык вось буржуазія і кажа, каб гэтыя ахвяры нясла на алтар Найясьнейшай Рэчыпаспалітай—**работніцкая кляса**...

Мо' аб гэта не спрачаліся-бы і самі „казённыя" прадстаўнікі работнікаў, калі б ня тое, што надыходзіць час новых выбараў, якія могуць быць мо' й вельмі прысьпешанымі — у выніку тэй ці іншай неспадзяванкі. Дык трэба перад выбаршчыкамі паказаць, што паны пэпэсы аж страх як шчыра даюць адпор такому цынічнаму дамаганьню буржуазіі.

І вось 14 сакавіка „Ваенная Рада" ППС ула-жыла гэткі „ультыматум" польскай буржуазіі, праўда—без пагрозы выхадам з коаліцыі...

Вось пастановы гэтай Рады:

1. Помач безработным—перад усім шляхам публічных работ.
2. Латаньне дзіры ў бюджэце скурай — заможных клясаў.
3. Зьмяншэньне недахвату ў бюджэце шляхам абмяжаваньня выдаткаў на войска, але ня коштам дзяржаўных працаўнікоў.
4. Рашучая барацьба з надужыцьцямі, растратамі ўрадоўцаў і—з дарагоўляй.
5. Захаваньне ўсіх сацыяльных здабычаў работніцкай клясы (8-гадзінны дзень працы і т. п.).

Вось як грозна і рашуча паўсталі пэпэсы на абарону працоўных—ад замаху на іх жыцьцё і кішані з боку „коаліцыйнага ўраду", да якога належаць... самі пэпэсы!

Толькі-ж вось польская буржуазія штосьці ня спужалася зусім гэтага выступленьня „сваіх" пэпэсаў... Бо ўжо на другі дзень пасьля гэтага „ультыматуму" адказ на яго даў сам запраўдны фінансава-эканамічны дыктатар сучаснай Польшчы—мін. Зьдзеховскі.

У сваей прамове ў Пазнані п. Зьдзеховскі перад усім вельмі спрытна заявіў, што ён умысна пакінуў у бюджэце дэфіцыт у ліку 200 міліёнаў, не паказаўшы яго пакрыцьця: хай гэта зробіць сам Сойм. Але, дадаў міністар, калі яго падтрымае ўсё польскае грамадзянства (слухайце, паны пэпэсы!), тады ён пакажа і знойдзе ў сябе розум і сілу правясьці ў жыцьцё — тыя **адзіныя шляхі** і спосабы, якімі можна пакрыць дэфіцыт...

Якія-ж гэта шляхі? Вось яны якраз і прадстаўляюць адказ на „ультыматум" пэпэсаў і зьмяшчаюцца ў наступнымі;

1. Першым чынам трэба... падкарміць трохі краёвую буржуазію тэй „вывазной прэміяй", якую забясьпечывае краёвым прамысло́ўцам, абшарнікам і гандляром, працуючым на заграні́чны рынак, **спадак польскай валюты**, найбольш балючы для ўсіх працаўнікоў і работнікаў, якія-ж атрымліваюць пэнсіі і плату ў злотых, а не ў далярах!

2. Другім спосабам зьменшыць недахват зьяўляецца **павялічэньне агульнай сумы падаткаў**, якія трэба пералажыць „больш раўнамерна" — на **шырокія масы народу**, інакш і прасьцей кажучы: **перакласьці падаткавы цяжар з багатых на бяднейшыя слаі народу**...

3. Аднача́сна трэба значна **панізіць кошты прадукцыі**. Гэта значыць: зьмешыць усе выдаткі прамысло́ўца ці абшарніка на работнікаў, **абрэзываючы** дзеля гэтага **заробкі** працоўных і **касуючы сацыяльную апеку над работнікамі**. У гэтым пункце п. міністар дае адказ якраз на дамаганьне пэпэсаўскай Рады—**захаваць** усе „сацыяльныя здабычы" пралетарыяту. „Не захаваць іх, але — пахаваць"! маніцца ўрад—дзеля ратаваньня раўнавагі бюджэту".—рашуча адказывае п. Зьдзеховскі.

4. Урэшце трэба рашуча абмяжаваць бюджэты самаўрадаў і перад усім зачыніць для іх усялякія крэдыты з дзяржаўнага скарбу. Калі дадаць да гэтага, што значнай пазыцыяй самаўрадавых бюджэтаў зьяўляюцца выдаткі на арганізацыю публічных работаў для безработных, дык сацыяльны зьмест адказу эндэцкага міністра сваім калегам—„сацыалістам" стане зусім ясным...

Такі выразны адказ даў сваім калегам па габінэту „коаліцыйны міністар на **першую** палову іх „ультыматуму"...

---

У той самы час на другую палову даў ня менш рашучы адказ другі паўнаўладны кіраўнік палітыкі „коаліцыйнага" ўраду—Ст. Грабскі.

На толькі што адбытым зьезьдзе польскага вучыцельства мін. Грабскі заявіў, што „ён ня меў бы сумленьня перакідаць ашчаднасьцяў з цывільных дзяржаўных працаўнікоў на—войска"... „Бо— што-ж будзе з імі (са школай дый з іншымі дзяржаўнымі ўстановамі), калі ня будуць забясьпечаны граніцы Польскай дзяржавы?"... Дык — як ні круці, а прыдзецца „далей рабіць ашчаднасьці і рэдукцыі (звальненьне са службы)—коштам гэтых працаўнікоў, перад усім — вучыцельства, каб пакрыць хатнімі срэдствамі недахват у бюджэце. — Бо ні на што іншае разьлічаць няма падставы. Трэба толькі, каб „ахвярнае польскае вучыцельства, ня гледзячы на свае больш як напалову абрэзаныя пэнсіі, яшчэ—павысіла ровень польскай школы ў краі...

---

Дык вось—на дамаганьні пэпэсаўскай Рады два паўнаўладныя кіраўнікі ўсяго „коаліцыйнага" ўраду зусім спакойна адказалі, што **ніводнага з пунктаў „ультыматуму"** гэты ўрад ня толькі **ня зьбіраецца выпаўняць**, але—наадварот: мае і будзе рабіць усё якраз нешта **рэзка проціле́жнае!**

Цікаўна ўсё-ж: чаму гэта польская буржуазія неяк зусім не баіцца „сваіх сацыялістаў", ані іх „вайны", ані іх пагрозаў—выхаду з „коаліцыі"?

Больш-менш таму-ж, чаму ані Чэмбэрлен, ані Брыян ня спужаліся пагрозаў п. Скшыньскага—выйсьці з Лігі Народаў, дый навет—„шукаць зблі́жэньня з СССР"... Ня спужаліся перад усім дзеля таго, што—як Польшчы з Лігі, так сама і ППС з „коаліцыі" з эндэцыяй **ніякага выхаду ўжо няма**... Няма-ж — таму, што — як для Польшчы п. Скшыньскага, так сама і для „сацыялізму" п. Недзялковскага—усялякае зблі́жэньне з жывым змагаючымся, ці ўжо перамогшым пралетарыятам—гэта-ж прысуд сьмерці...

І пакуль-што, так сказаць „малы прысуд" будзе выкананы для ППС—на найблі́жэйшых выбарах у Сойм.

І калі мы—ў тых самых грозных быццам для буржуазіі дамаганьнях ці пагрозах пэпэсаўскай Рады чытаем: „Галоўная Рада ППС зварачае ўвагу (ведама-ж—„коаліцыйнай" паліцыі і дэфэнзывы!) на новую тактыку камуністаў, якія.... высунулі лёзунг выбарнага блёку ўсіх работніцкіх, сялянскіх і дробна-мяшчанскіх арганізацыяў", — дык гэты блёк якраз і будзе „катам", які споўніць „малы прысуд сьмерці" над пэпэсамі на выбарах.

Ясна, што адзін-адзіны ратунак для панкоў і падпанкаў „польскага сацыялізму" ў другім блёку: блёку ўсіх арганізацыяў абшарніцкіх і мя-

---

# Перадвыбарныя баламуцтвы.

*(Голас з вескі).*

„Крэсавы Зьезд", які нядаўна адбыўся ў Горадні, павінен нас шмат чаго навучыць і шмат аб чым перасьцерагчы. Тамака былі зьехаліся найвялікшыя крэсавыя зубры, ды ў працягу двох дзён радзіліся аб „паправе" гаспадарчага стану „Крэсаў",—інакш кажучы: аб узмацаваньні вайсковага асадніцтва, аб захапленьні ў свае цэпкія лапы ўсяго „крэсавага" жыцьця ды аб забясьпечаньні для сябе цёплых мясьцін у розных урадах, а ў будучыне—і пасольскіх мандатаў....

Даволі адзначыць, што арганізатарамі зьезду былі збанкрутаваўшыя паслы з партыі „Вызваленне", якія, губляючы ўсё больш грунт пад нагамі, вось ужо цэлы год кідаюцца ў розныя бакі, твораць розныя новыя клюбы ў Сойме, ды ўсяляк перамалёвываюць свае вывескі, абы толькі мець магчымасьць баламуціць і далей сялянства і выманіць у яго на новых выбарах галасы. Побач з „вызваленцамі" станулі ў гэтай „рабоце" і „крэсавыя" зубры, перад усім — ведамы беларусам, як ліхая хвароба, былы генаральны камісар Усходніх Зямель, пан Ежы Осмоловскі (даверaны чалавек пана Юзэфа Пілсудскага!), той самы Осмоловскі, які зьяўляецца тварцом законаў аб „самаўрадах"— гмінных і паветавых, каторыя ажно ў косьці ўеліся нашаму сялянству, зусім пазбавіўшы яго навет ценю самаўпраўленьня! Той самы Осмоловскі, што абсадзіў гэныя самаўрады войтамі і пісарамі „па назначэньню", якіх паны старосты „выбіралі" спаміж асаднікаў, ці то з паўцякаўшых з Расеі царскіх афіцэраў і чыноўнікаў.

Далей разам з „вызваленцамі" зьехаліся „ратаваць польскасьць" і старшыня ўсіх асаднікаў пан Пшэпэльскі, і біскуп Лазінскі, і князь Сапега, і многа многа іншых „крэсавых дзеячоў". Былі там і пан Хаміньскі — „дэмакратычны" сынок вядомага абшарніка-рэакцыянэра, і пан Косьцялковскі — былі афіцэр дэфэнзывы пана Пілсудскага, і пан Гэльман, — усё вызваленскія паслы, якія папалі ў Сойм беларускімі сялянскімі галасамі, ды цяпер ізноў туды-ж мосьцяцца, прыкрываючыся „сялянскімі" партыйнымі наклейкамі....

Вось, усе гэныя „прыяцелі" селяніна і работніка пачалі—спадзяючыся на хуткія выбары „апекавацца" нашым працоўным народам. Яны нам суляць „гаспадарчую паправу", а поруч з імі ня менш крывадушныя панскія сынкі з партыі ППС ды агенты польскае кулацкае партыі Вітаса „Пяст", што падзялілі цяпер над намі ўладу, стварыўшы „коаліцыйны" урад, — пруцца таксама на нашы „Крэсы", баламуцячы народ пасуламі зямлі, якую ўжо самі-ж аддалі... асаднікам!

Трэба нашаму працоўнаму сялянству загадзя праціраць вочы і даваць рашучы адпор усім гэным баламутам—ваўком у авечай скуры!

Паставы. **Антось Гарамыка.**

---

# Каля будучых выбараў у Сойм.

*(Голас з Дзісьненшчыны).*

Усім ведама, што цяперашні „працаздольны" Сойм жыве ўжо чацьвёрты год, і недалёка час яго натуральнай сьмерці (калі не памрэ часам гвалтоўна). Гэта тутака прыпомніць выбары ў гэты Сойм. Каго толькі ня было ў гэты час на беларускіх абшарах: і „Вызваленьне" і „Пяст" і „Рады Людовэ", „Пэпэсы" і „Зялёны Дуб". Усе яны аб'явіліся „шчырымі беларусамі". Усе яны сулілі нам залатыя горы, мядовыя рэчкі. Абяцалі хлеб па 3 маркі фунт...

Усё мінулася. Народ наш, маючы гэтыя выбары, як пяршыну, не разьбіраўся добра ўва ўсім значэньні выбараў і, зьведзены лоўкімі агітатарамі з простай дарогі, дапамог нашым ворагам, аддаючы свае галасы за іхнія партыі.

Месцамі і да выбараў людзі адносіліся пасыўна, а што кабеты дык глядзелі на гэтакую важную справу, як на справу выключна мужчынскую. Але хутка людзі пазналі сваю абмылку. Гэтыя тры гады існаваньня Сойму раскрылі вочы ўсім на тое, хто быў іхні прыяцель, а хто вораг. Усе мы добра даведаліся, што далі нам нашыя „прыяцелі"—ваўкі ў авечай скуры.

Падыходзе час новых выбараў, — і ўжо ваўкі ня сьпяць, а працуюць. Ведаем аб дзейнасьці „пэпэсаў" на Палесьсі; там-сям аб'яўляюцца „пястоўцы"; на кулакі йдзе за нашую „лепшую" долю „Зьвёнзэк Хлопскі" і г. д. Усе яны ізноў нашыя „самыя шчырыя прыяцелі". Якраз, як у часе выбараў у Расейскія дзяржаўныя Думы, калі ў нашым краі абшарнікі—заядлыя палякі аб'яўлялі сябе беларусамі.

Гэтак адзін расейскі журнал з Вільні за 1907 го—даслоўна кажа:

> „паны палякі заўсёды з ненавісьцяй адносіліся да ўсяго рускага, а цяперака ў часе прадвыбарнай кампаніі аб'явілі сябе беларусамі. Гэтак у Дзісенскім павеце зрабілі абшарнікі Гласка, Пшэзьдзецкі і інш. заядлыя палякі. Ня цяжка дадумацца, што хочуць яны пад відам беларусаў прайсьці ў Дзяржаўную Думу — як бы прадстаўнікамі ад насяленьня Паўночна-Заходняга краю".

Але, дадае далей аўтар:

> „беларус-селянін ня верыць ім".

Дзеля нашага сялянска-работніцкага люду пададзеная выметка з журналу—гэта добрая лекцыя. Гэтую лекцыю ўсе мы мусім добра, уважна ўцяміць, каб у часе новых выбараў не рабіць тых абмылак, што шмат хто зрабіў у першыя выбары.

Хай засьцярога няведамага аўтара, што „беларус-селянін ня верыць ім", зьдзейсьніцца і цяпер, — хай будзе нам навукай, каб мы гэтак лёгка ня верылі. Хай ніхто гэтак жа лёгка не глядзіць на недалёкую справу выбараў. Хай кожны беларус-мужчына, жанчына,—хто будзе мець права да выбараў—хай кожны з іх ужо, час ад часу, падумае пра новыя выбары і пра людзей, якіх ён выбярэ сваімі прадстаўнікамі.

Нашых прадстаўнікоў добра ахарактэрызаваў беларус-настаўнік у стацьці „За кім ісьці" (гл. „Беларускую Ніву" № 18). Ад сябе дадам, што гэтымі прадстаўнікамі мусіць быць „Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада". Гэтай Грамадзе беларус селянін-работнік сьмела можа паверыць. Усім-жа іншым ужо больш не паверым!..

**Нядоля.**

стова - капіталістычных — ад Хіены да Пяста ўключна...

Ясна, што ніякага іншага выхаду пэпэсаўскім Юдам ужо няма...

---

Між гэтымі двума блёкамі і будзе ісьці, усё больш распаляючыся, барацьба—сьпярша ў пачынаючайся ў хуткім часе **бюджэтнай дыскусіі**, пасьля на набліжаючыхся выбарах у Сойм, а ў канцы...

Ну, аб „канцы“ пісаць наагул небясьпечна.

# Вынікі Агульнага Збору Лігі Народаў.

### Усе здаволены!

Ня гледзячы на агульны правал усей сэсіі Лігі Народаў, спэцыяльна скліканай толькі і выключна для прыняцьця Нямеччыны ў склад Лігі,—усе „лёкарнцы“, адлажыўшы гэтую справу на восень, разьехаліся неяк вельмі здаволеныя рэзультатамі... правалі ўшагася Агульнага Збору Лігі!

Першым чынам усе дзяржавы, падпісаўшыя ведамы трактат у Лёкарно, выдалі адозву, у якой сцьвярджаюць, што, хаця, нажаль, прыняцьце Нямеччыны ў Лігу не адбылося, як было пастаноўлена і падпісана ў Лёкарно, усе адносныя Трактаты захоўваюць сваю сілу... У тэй-жа адозьве сцьвярджаецца ўжо рашуча (сцьвярджалася-ж ужо і ў Лёкарно!), што да восені ўсе перашкоды дзеля ўваходу Нямеччыны—**на прадбачаных у Лёкарно варунках**—будуць зьліквідаваны. Адначасна — дзеля разгляду гэтых перашкодаў і ўзаемнага паразуменьня дзяржаваў у справе рэарганізацыі Рады Лігі—выбрана асобная камісія, у якую **прадстаўнікі Нямеччыны ўвайшлі з рашаючым голасам**, ня гледзячы на тое, што Нямеччына яшчэ **не ўвайшла ў Склад Лігі**...

Ізноў трэба сцьвярдзіць **супярэчнасьць** гэтых актаў: „лёкарнскія“ дзяржавы сцьвярджаюць, што прыняцьце Нямеччыны ўвосені адбудзецца на тых-жа варунках, як было пастаноўлена ў Лёкарно,—гэта значыцца—без усялякіх зьменаў у арганізацыі Рады; а тым часам — пераважна **тыя ж самыя** дзяржавы складаюць камісію, якая мае апрацаваць **праект рэарганізацыі Рады Лігі!** Дык ня дзіва, што... здаволены усе, бяз вынятку,—як тыя, што проці ўсялякіх зьменаў у Статуце Лігі, **да ўваходу Нямеччыны**, так сама і тыя, хто дамагаецца рэарганізацыі..

### Што даў правал Нямеччыне?

Трэба ўсё-ж такі сцьвярдзіць, што праваліўшаяся сэсія Лігі дала шмат чаго ўсім заінтэрэсаваным дзяржавам, за вынаткам, можа, аднэй Англіі, якую Чэмбэрлен, вядучы падвойную ігру, скампрамітаваў настолькі, што ў краі паднялася кампанія, каб змусіць яго падацца ў адстаўку.

Нямеччына, апрача таго, што паказала ўсім сваю нячувана ўзросшую міжнародавую вагу і павагу, фактычна здабыла сабе рашучы голас у справах Лігі, навет яшчэ **не ўвайшоўшы ў Лігу**... Што гэты рашучы голас будзе мець сілу, касуючую ўсялякія няўгодныя Нямеччыне прапазіцыі, можна быць пэўным, бо паўтарыць у верасьні марцовы скандал сусьветны кіраўнікі Лігі пэўне-ж не захочуць. Апрача таго, Нямеччына атрымала з вуснаў Брыяна, прадстаўніка найбольш заядлага ворага яе—Францыі, заяву, што нямецкая дэлегацыя вяла сябе праз увесь час жэнэўскай дыскусіі—беззаганна, што віна за разьбіцьце перагавораў ляжыць **не на нямецкай дэлегацыі**... Але, што яшчэ важней,—Нямеччына атрымала афіцыяльнае сцьверджаньне таго, што яна **выпаўніла ўсе дачыста варункі, прадугледжаныя навет Вэрсальскім Трактатам**, дзеля ўваходу ў Лігу — на сталае мейсца ў яе Радзе... Як ведама, гэтыя варункі датычылі галоўным чынам **разбраеньня**..—Дык гэтым прызнаньнем Францыя з іншымі саюзьнікамі сцьвярджае ўрачыста, што Нямеччына ня толькі маральна (што было зроблена ў Лёкарно), але і фактычна **перастала быць небясьпечным ворагам яе і агульнага міру ў Эўропе**...

Якое значэньне гэтае прызнаньне мае для міжнародавага голасу і вагі Нямеччыны, зразумее ўсякі. Але-ж трэба зразумець і тое, што нясе ў сабе гэтае прызнаньне для Польшчы, якая будуе ўсе свае міжнародавыя мяркаваньні — на прынцыповай і сьмяротнай варожасьці і ненавісьці Францыі да Нямеччыны...

### Чым здаволіліся Францыя і Польшча.

Францыя можа быць здаволенай перад усім тым, што Брыян вельмі спрытна выкруціўся хаця-б ад дадзенага Польшчы „слова“ (ў ваеннасаюзным дагаворы)—„даць Польшчы сталае мейсца ў Радзе адначасна з Нямеччынай“. Цяпер ідзе—ці, лепш: можа ісьці гутарка толькі аб **выбарным** мейсцы для Польшчы ў Радзе, дый то фактычна—толькі **са згодай на гэта Нямеччыны**...

Польшча можа быць здаволена ўжо тым, што ў Лізе паважна размаўлялі аб кандыдатуры Польшчы на... **нясталае** мейсца ў Радзе, што здарылася першы раз за ўвесь час істнаваньня Лігі. — Дагэтуль, як ведама, усе заявы і прэтэнсіі Польшчы на выбарнае мейсца ў Радзе (Скірмунта і Сэйды) папросту навет—не разглядаліся...

Ці гэта мае значыць, што Польшчы запэўнена гэтае нясталае мейсца на верасьнёвай сэсіі Лігі?—На гэта можна сьмела адказаць, што—**бяз грунтоўнай рэарганізацыі Рады Лігі**—Польшча гэтага мейсца ў Радзе не атрымае... Бо, хаця ахвяраваліся быццам дзеля пекных вачэй Польшчы адмовіцца ад сваіх мейсцаў у Радзе Чэха-Славакія і Швэцыя, але—ані Малая Антанта, якую прадстаўляе ў Радзе першая (Ч.-Сл.), ані група Скандынаўскіх (ці навет наагул—нэйтральных) дзяржаў, прадстаўніком якой зьяўляецца ў Радзе другая (Швэцыя)—пэўна-ж не аддадуць свайго мейсца Польшчы. Так яно ўжо і выходзе: бо на мейсца Чэха-Славакіі ўжо высоўваюць кандыдатуры Югаславія і Румынія, а на мейсца Швэцыі—Галяндыя. Ведама ўжо і тое, што Нямеччына наперад заявіла, што на кандыдатуру Румыніі яна ня згодзіцца, а кандыдатуру Галяндыі, як нэйтральнай дзяржавы, можа толькі прывітаць...

Ці будзе Нямеччына прыхільнейшай да кандыдатуры Польшчы? Ну, можа і будзе, калі атрымае за гэта нешта такое, што дасьць ей магчымасьць паставіць у Радзе Лізе справу перагляду польска-нямецкай граніцы. Але гэта магчыма толькі пры такой рэарганізацыі Рады, пры якой будзе **скасаваны абавязак аднагалоснасьці пастановаў Рады** і, значыцца, пратэст аднае Польшчы ня будзе мець сілы.

### Сцьвярджэньне банкруцтва Лігі.

Апошняя сэсія Лігі ясна паказала, што Ліга, у тэй форме, як яна ёсьць,—збанкрутавала. Раскрылася столькі супярэчнасьцяў між рознымі групамі дзяржаў, столькі маючых пэўную слушнасьць прэтэнсіяў на тое ці іншае ўчасьце ў найважнейшым органе Лігі—яе Радзе, што гэтую Лігу трэба наагул неяк рэарганізаваць. Ясна стала ўсім, што панаваньне ў гэтай Лізе аднэй Англіі, як было дагэтуль, ці Францыі разам з Англіяй, як было яшчэ раней,—скончылася назаўсёды. Скончылася перад усім дзеля таго, што супярэчнасьці між Англіяй і Францыяй даўно разьбілі іх слаўнае „паразуменьне“ („Антанту“). Уваход Нямеччыны, прэтэнсіі Бразыліі, як прадстаўніцы Паўдзённай Амэрыкі, магчымы ўваход Амэрыкі (ня кажучы ўжо аб СССР...), новыя гуртаваньні дзяржаў, — усё гэта так заблутала сусьветныя міжнародавыя адносіны, што—Раду Лігі бязумоўна трэба будзе пашырыць. Але, як ужо вельмі трафна азначыў у сваей прамове перад выездам у Жэнэву Чэмбэрлен, пашырэньне Рады Лігі зробіць зусім немагчымым захаваньне прынцыпу аднагалоснасьці яе пастановаў...

### Жыцьцё — за Нямеччыну!

Інакш кажучы, ізноў, як у-ва ўсім і заўсёды: жыцьцё і разьвіцьцё сусьветных падзей ідзе па шляху, карысным парад усім — Нямеччыне. Бо якія-б ні выдумалі проці яе „статуты“, Трактаты, бар‘еры, ці путы,--заўсёды жыцьцё высоўвае — у інтэрэсе агульнага і супольнага разьвіцьця сьвету—такія папраўкі на ўсе спэцыяльна проціняме цкія штукі, якія зусім касуюць іх шкодны для Нямеччыны зьмест... Так і тут: калі будзе навет зроблена з Радай Лігі тое, чаго хочацца Польшчы і што быццам гарантуе найбольш важную для яе рэч—нятыкальнасьць яе граніцаў, дык далейшым, зусім неабходным і няўхільным крокам будзе скасаваньне ў Статуце Лігі якраз гэтай гарантыі... Што-ж рабіць? Відаць, як ні круці, а Нямеччына неяк больш патрэбна і карысна сьвету, чым Польшча...

---

* * *

О, гэта аповесьць звычайна й каротка
Аб долі жахлівага зьместу.
Спавіла, залюляла салодка
І выйшла на места.

Дзіцятка?.. Хто вінны?.. Ды згадаваць [дарэмна!
Клясьці?—яшчэ марней!..
На вуліцы ночнай і дрэннай
Спынілася, жджэ пад ліхтарняй...

Ў сьвядомасьці горкай—упартая згадка
І вочы блішчаць нехарбша: —
Выгналі з фабрыкі матку —
Ўбогім кахацца раскоша!

Бяздушны муры і сірэнаў пагудка,
Дражняць убраньні багатых...
— На вошта-ж спынілася тутка?
Ці ня крыўду сваю прынясла ты?

Сьпяшаюцца людзі, у кожнага дзела...
— Чаго-ж ты чакаеш жанчына?
— Зьмяняць сваё цела...
На хлеб... для сябе... і для сына...

**Уладзімір Жылка.**

## З рабочых матываў.

Рабочы, парабак, салдат,
Мы брацьця волі і жыцьця,
Мы ўсе сыны працоўных хат,
Мазольнай працы і труда....

Фабрыка, завод,
Дым і смурод....
Чорныя, доўгія дні....
Песьні жыцьця,
Смага сьвятла —
Шчасьця на чорнай зямлі...

Нясем мы здаўна ланцугі
За гудам валаў і машын,
За песьняй ціхай аб жыцьці....
З разістай больлю рук і сьпін....

А там, як сталь,
Сьмяецца даль....
Заліты вагнём небасхіл....
Чагось шкада,
Вясны, жыцьця...
І хочацца жыць з усіх сіл...

**Малады.**

## Жыцьцё.

Эх, жыцьцё, пакінь—даволі...
Чым я вінен прад табой?
Га?!—мо тым, што лепшай долі
Жду збалелаю душой?

Тым, што з гора праклінаю
Я, пакутнае, цябе,
Што змагацца сіл ня маю
У няроўнай барацьбе.

Мо‘ цярпець я мушу,
Што з ахвотаю гатоў
Класьць на выкуп сілы—душу
За зьняволеных братоў?

Дык пакінь, жыцьцё,—даволі!
Ці-ж ня хопіць гэтых мук,
Ран глыбокіх, скрытай болі,
Бескарыснай працы рук?

Дай мне руку брат бяздольны,
Толькі шляхам уласных сіл,
Пракладзём мы даступ вольны
Царству сьвета між магіл.

Ой, ня вечна табе хмара,
Цемрай дыхаць—да пары!
Стукнуць громы—дождж ужара:
Блісьне сонейка з гары.

Верым—прыдзе час маёвы;
Ўздох свабодны ўзьніме грудзі,
Зьнікне шэры дзень буднёвы,
Дачакаюць сьвята людзі!

**Міхась Васілёк.**

---

# Спатканьне новага габінэту у францускім парляманьце.

Прадстаўляючы свой новасфармаваны габінэт міністраў парляманту, Брыян зрабіў экспозэ, у якім ўсё паўтараў, што „новы“ габінэт будзе прадаўжаць унутраную і вонкавую палітыку папярэдняга. Дый ведама, што новы ўрад розьніцца ад старога толькі... яшчэ адным рашучым крокам у бок правіцы! Замяніўшы на становішчы мін. фінансаў п. Думэра на п. Пэрэ, рашучага ворага аб‘яднаньня з сацыялістамі і крайняй лявіцай, але ведама прыхільніка „сьвятой згоды ўсіх буржуазных партыяў“, дый выкінуўшы яшчэ двух найбольш крайніх „радыкалаў“ (міністраў справядлівасьці і ўнутр. спраў),—спрытны парляманцкі тактык і махэр Брыян здолеў зрабіць толькі адно: здабыць матэматычную большасьць свайму габінэту ў парляманьце, ня вырашыўшы ніводнай з тых асноўных задачаў, над якімі дарэмна б‘юцца адзін па адным урады Францыі, пачынаючы ад Вэрсальскага Міру. Як ведама, там — у сувязі з фінансавым крызісам — ідзе, ўсё завастраючыся, агнявая спорка: чыім коштам мае адбыцца фінансавая санацыя, чыей скурай латаць вялізарныя дзіры ў дзяржаўным (імпэрыялістычным) бюджэце?

Як ведама, францускі парлямант мае вялізарную большасьць прадстаўнікоў валадаючых клясаў, толькі спрытна назваўшыхся рознымі гучнымі мянюшкамі, дый рассеўшыхся на лявіцы. Каб не казаць ужо аб такіх мільянэрах радыкалах, як Эрыо ці рад іншых павадыроў радыкал-сацыялістаў, досьць сказаць, што сам галава францускага сацыялізму, „павадыр пралетарыяту Францыі“—Леон Блюм, зьяўляецца мільянэрам уласьнікам вялізарных фабрык істужак... Але ўсё-ж і гэткія „сацыялісты“ разумеюць, што не работнікі і дробныя мяшчане павінны ахвяраваць сваё жыцьцё і кішані на ратаваньне банкрутуючай фінансава дзяржавы, але—маючыя клясы. Дык уся крайняя лявіца парляманту, пачынаючы ад сацыялістаў, — толькі завастрыла свае адносіны да „зрэфармаванага“ ўраду Брыяна.

Але бура на першым спатканьні Брыяна з парлямантам выйшла ня з гэтага сацыяльнага абурэньня апазыцыі зьлева. — Бура ўзьнялася на правіцы і выклікана была паяўленьнем на міністэрскіх лаўках ведамага „здрадніка“ і „нямецкага шпіёна“ у часе вайны, выгнанага з краю судом п. Мальві... Уся „народовая“ правіца зрабіла п. Мальві „кацячы канцэрт“, лаючы і яго, і Брыяна, такімі „моцнымі славамі“, што ён двойчы млеў, трацячы прытомнасьць... Двойчы старшыня рабіў перарыў, але францускія эндэкі ня ўнімаліся...

І вось, пасьля ўсяго гэтага, адбылося галасаваньне над экспозэ новага ўраду, якое дало Брыяну патрэбную яму матэматычную большасьць, каб утрымацца надалей пры ўладзе. Урад атрымаў даверые 361 галас. проці 164...

Ясна, што пакуль-што паняй палажэньня ў Францыі будзе зачыніўшая моцна свае кашалі, куфры і кішані, але нарыхтаваўшаяся да зьдзіраньня апошняе скуры з працоўных,—буржуазія... Ясна і тое, што яна надалей і можа, і будзе руйнаваць край, якому ня будзе ў канцы іншага выхаду, як нейкі рашучы пераварот.

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Адстаўка міністра Рачкевіча.

Міністар унутраных спраў Рачкевіч быццам пастанавіў падаць просьбу аб адстаўцы і вярнуцца на сваё старое мейсца віленскага ваяводы.

У сувязі з гэтым паміж урадавымі партыямі ўжо пачаўся торг: якая партыя мае пасадзіць на становішча найважнейшага ў унутраным жыцьці дзяржавы міністра? Асабліва важным будзе гэтае пытаньне на час выбараў у Сойм.

### Падвыжкі дамаўласьнікам ідуць, як і йшлі.

Юрыдычная камісія Сойму адкінула прапазыку аб спыненьні новых падвыжкаў дамаўласьнікам за кватэры. Пакінуты толькі, як дагэтуль, палёгкі тым кватэрантам, якія ня маюць працы, дый то, калі — ня маюць сублёкатараў.

### Яшчэ пракурор-злачынца.

Як ужо высьветлена стледзтвам, галоўны пракурор Седлецкага Акр. Суда п. Трусковскі ў працягу даўжэйшага часу фальшаваў вэксалі, падрабляючы падпісы сваіх калегаў падуладных — падпракурораў і судзьдзяў.

Зразумела, што гэта нічуць ня перашкаджала п. Трусковскаму „пільнаваць закон" і садзіць у турму ўсялякіх праступнікаў, а перад усім, ведама-ж, палітычных.

Справа пракурора Трусковскага будзе разглядацца ў Варшаўскім Судзе. Сам злачынца пасаджаны ў вастрог у Варшаве.

Цікавыя весткі паданы ў газэтах аб ранейшай кар'еры гэтага дзеяча „справядлівасьці". У 1905 годзе п. Трусковскі, былы магілёўскі польскі абшарнік, быў назначаны расейскім урадам сьпярша начальнікам толькі-што заведзеных тады так званых „земскіх стражнікаў", якія мелі задачай „усьміраць" сялян, баронючы адначасна ад пагромаў панскія двары. Відаць, добра спаўняў польскі магнат царскую паліцэйскую службу, калі ў хуткім часе атрымаў важнае павышэньне: быў назначаны „прэдвадзіцелем дваранства" (маршалкам шляхты). Ад бальшавікоў уцёк ён у 1918 г. і быў у Польскай Рэспубліцы адразу-ж пастаўлены на адпаведнае яго даўнейшым заслугам мейсца — пракурорам суду ў Седльцах.

### Крадзеж 3.000 даляраў.

На Варшаўскай пошце прапала прысланая з Амэрыкі для Амэрыканскага Камітэту помачы дзецям пасылка з 3.000 даляраў.

### Катастрофа на чыгунцы.

Каля станцыі Рогов, паміж Варшавай і Кракавам, якраз у ўгодкі леташняе катастрофы з цягнікам, нявыкрытыя злачынцы папсавалі стрэлку і гэтым выклікалі зыход скорага цягніка з рэльсаў. Разьбіты паравоз і два вагоны. На шчасьце, ахвяр у людзях ня было.

## Заграніцай.

### Даклад амэрыканскага „наглядчыка" ў Эўропе.

Англійскія газэты пішуць аб вельмі цікавым дакладзе, які зрабіў амэрык. пасол у Лёндане прэзыдэнту Куліджу—аб сваіх уражаньнях з апошняй сэсіі Лігі, дый наагул аб становішчы сучаснай Эўропы.—Амэрыканскі наглядчык эўрапэйскіх падзей слушна сцьвярджае, што эўрапэйскія палітыкі нічога не навучыліся ад часу Вялікай Вайны... Эўрапэйскія дзяржавы, ня гледзячы на істнаваньне Лігі Народаў, зусім ня думаюць разбраівацца. Дык — няварта, значыць, і памагаць ім пазыкамі...

### Лёкарнскія „міратворцы" і—гандаль нямецкай амуніцыяй.

Як ведама, паводле Вэрсальскага Трактату Нямеччына змушана была выдаць саюзьнікам вялізарныя масы нафабрыкаванай у сябе амуніцыі (ўсялякага роду ваенных матэр'ялаў). Гэтыя матэр'ялы саюзьнікі павінны былі зьнішчожыць. Але замест таго пераможцы падзялілі дабычу між сабой, і вось цяпер выкрылася, што ўсе гэтыя аграмадныя запасы аружжа, праданыя „міратворчымі" ўрадамі саюзьнікаў розным спэкулянтам і пахаваныя імі ў „тайных" складах, „тайна-ж" вывозяцца з Англіі, Францыі і Італіі і прадаюцца па ўсім сьвеце—зразумела, перад усім дзяржавам „другога сорту"...

Вось як выглядае выкананьне на дзеле адной з шляхотных мэтаў Вялікай вайны: зьнішчэньня сусьветнага мілітарызму!

### Француская акупацыя нямецкай зямлі зьнікае.

У выніку далейшага ўзмацненьня Нямеччыны, саюзьнікі ўсё больш змушаюцца зьнімаць з яе сваю ваенную апеку. У хуткім часе францускае войска будзе выведзена з раёну Сары, у апошнім будуць пакінуты толькі 1000 чал. жандармэрыі, над якімі будзе мець вышэйшую ўладу назначаны Лігай Народаў Камісар — грамадзянін Канады п. Стэфанс.

### Даўгі Францыі Амэрыцы.

Пасьля стольскіх няўдачаў перагаворы Францыі з Амэрыкай у справе ўрэгуляваньня францускіх даўгоў маюць быць быццам хутка закончаны. Агульны доўг Францыі Амэрыцы аблічаны ў суме 6 мільярдаў 200 мільён. даляраў.

Пералічыць гэтую суму на злотыя—ня ведама, ці патрапіў бы сам прэзэс Польскага Банку — п. Карпіньскі...

### Тэлеграма англійскіх работнікаў—швэдзкаму прэм'еру.

Сябры работніцкай партыі ў Англіі паслалі швэдзкаму прэм'еру тэлеграму, дзякуючы яму за ўсе тыя ўслугі, якія прадстаўніцтва Швэцыі ў Лізе Народаў аказала сьвету, і заклікаючы Швэцыю — не зракацца свайго мейсца ў Радзе Лігі.

### Вялікія вясеньнія манэўры радавай арміі на румынскай граніцы.

14 красавіка маюць распачацца вялікія вясеньнія манэўры радавай арміі на граніцы Бэсарабіі... Дык—ажна ў Вільні чуваць, як калоцяцца —на гэтую „вясну"—сэрцы румынскіх баяраў, якія слушна спадзяюцца розных мілых ці нямілых неспадзяванак...

### Падарожа амэрыканскіх сэнатараў у ССРР.

У ССРР зьбіраецца ведамы амэрыканскі сэнатар Бора, а разам з ім значная група іншых сэнатараў і дзеячаў Амэрыкі, жадаючых злучыць у супрацоўніцтве абедзьве вялікія фэдэрацыі Старога і Новага сьветаў.

### Новы ўрад у Чэха-Славакіі.

Прэзыдэнт прыняў адстаўку габінэту п. Свэглі і даручыў злажыць новы ўрад п. Чэрнаму. Габінэт п. Чэрнага мае так-званы фаховы характар, гэта значыць — складаецца не з адказных прадстаўнікоў парляманцкіх груп, але з асабіста запрошаных прэм'ерам (па паўнамоцтву ад прэзыдэнта)—фахоўцаў-спэцыялістаў. Мін. загранічных спраў у новым урадзе астаўся Бэнэш.

### Паражэньне народнай арміі ў Кітаі.

Англійскае агенцтва падае вестку аб поўным быццам паражэньні народнай арміі ў Кітаі, разьбітай войскам японскага найміта „Чанг-Тсо-Ліна.

### Ультыматум дзяржаў-жываедаў Кітаю.

Аб'яднаныя дзяржавы-жываеды зьвярнуліся да павадыра народнай арміі ў Цянь-Дзіні, Ла-Чангу, з ультыматумам, трэбуючы ад яго спыненьня ўсялякай ваеннай акцыі проці іх, як на сушы, так і на моры, пагражаючы ў разе спраціву—рашучай супольнай ваеннай інтэрвэнцыяй (паходам). Вось, проці гэтага нахальнага камандаваньня ў чужым краі і пратэставалі шляхотна кітайскія студэнты.

### Адстаўка кітайскага ўраду.

З прычыны агульнага абурэньня ў краі, выкліканага пасыўным становішчам кітайскага ўраду ў справе масавага растрэлу студэнтаў, Пэкінскі ўрад падаўся ў адстаўку.

### Крывавая бойня студэнтаў у Пэкіне.

Як ведама, на чале народна-вызваленчага руху працоўных у Кітаі станула студэнцкая моладзь, стварыўшая як быццам генаральны штаб усяе вялізарнае народнае арміі працоўных. Дык ясна і тое, што ўся ненавісьць жываедаў-імпэрыялістаў і іх кітайскіх наймітаў скіравалася перад усім на гэтых студэнтаў (так было і ў царскай Расеі!). І вось, прычапіўшыся да маніфэстацыі таўпы студэнтаў, пратэстаўшых проці гвалтаў дзяржаў-жываедаў, паслаўшых ультыматум кітайскаму ўраду,—паліцыя і войска японскіх наймітаў учынілі вялізарную крывавую баню студэнцкай моладзі ў Пэкіне, палажыўшы трупамі дый параніўшы шмат студэнтаў.

# Аб чым пішуць.

### Самі сябе сякуць.

„Сялянская Ніва", орган паслоў Ярэміча і Рагулі, ад самым сваіх закладзінаў займаецца адно тым, што стараецца пасварыць працоўных вёскі з працоўнымі места — ведама-ж, каб і адных і другіх паасобку магла лепш закабаліць буржуазная ўлада!—Вось гэная самая „Сялянская Ніва" ў сваім нумары з 14 сакавіка надрукавала стацьцю пад загалоўкам: „Ці мы дзелім?", у якой зусім ясна выявіўся ўвесь запраўдны кірунак новае палітычнае групы. Вось што піша аўтар гэнае стацьці:

> Інтарэсы сялянаў і работнікаў розныя. Па меры таго, як сяляне і работнікі будуць дахадзіць лепшага, справядліўшага быцьця, розьніца гэтая інтарэсаў будзе павялічаціся. **Калі дойдзе той жаданы час, што ў вёсцы ня будзе паноў, а ў мястох капіталістаў-фабрыкантаў, ды гандляроў-спэкулянтаў—работнікі і сяляне, як места і вёска, будуць пастаўлены адны проці адных.** Адны з іх будуць заняты фабрычнымі вырабамі і з гэтага браці ўсю карысьць сабе, другія (сяляне) будуць заняты першавырабам, зьбіраньнем з Маці-Зямлі збожжа і г. п. і гадоўляй жывёлы. Месты будуць патрабаваці хлеба, мяса і г. п., а вёска мястовых вырабаў. Работнік і селянін будуць у адносінах да сябе, як купец і прадавец і наадварат, ці, іначай кажучы, як тавараменьнікі. У гэтай тавараменe, каб ня быў жадны пакрыўджаны, не павінен адзін ад аднаго залежыць, бо адны тагды будуць магчы свабодна старгавацца. Гэта-ж можа стацца, калі як сяляне, так і работнікі будуць мець свае асобныя клясавыя арганізацыі.

Мы зумысьля падчыркнулі словы стацьці, з якой выходзе, што сяляне павінны ўжо **цяпер** арганізавацца асобна ад работнікаў дзеля таго, што **калісь**, як ужо **„ў вёсцы ня будзе паноў, а ў мястох капіталістаў-фабрыкантаў ды гандляроў-спэкулянтаў"**,—вось тады сялянам прыдзецца дзяліцца ўладай з работнікамі. Дык каб апошнія іх не пакрыўдзілі...

Вельмі гэта добрая рэч—такая дбайнасьць аб сялян у вельмі йшчэ мо' **далёкай будучыні.** **Але** справа ў тым, што, **каб дайсьці да гэтае будучыны,** якраз **цяпер** патрэбна самая цесная сувязь працоўных места і вёскі. Інакш, **ідучы паасобку** і кожны да сваей **асобнай мэты,** ані сяляне, ані работнікі **ня прыйдуць гэнае будучыны:** улада пана абшарніка і фабрыканта, абапертая на разрозьненасьці сялян і работнікаў, **сама ня счэзьне,** ды будзе трываць неабмяжованы час...

Ясна-ж, што кіраўнікі „Сялянскае Нівы" зусім і **ня імкнуцца да змаганьня за той новы лад,** які нібы-то „сам сабой некалі мае прыйсьці. Змаганьне, бачыце, рэч даволі небясьпечная, і аб ім паны Ярэміч і Рагуля гаварыць ня хочуць! Няхай гэтым займаюцца другія...

Успомненая тут стацьця „Сялянскае Нівы", аўтар якое выяўляе поўнае незнаёмства з гісторыяй рэвалюцыйных рухаў наагул, ды беларускага асабліва,—стаўляе, пам'ж іншым, у вельмі нялоўкае палажэньне галоўнага, хоць і самачыннага,

# Да гісторыі рэвалюцыйнага руху у Беларусі.

*(З архіўных матэрыялаў).*

Віцебскі акруговы архіў захоўвае шмат цікавых спраў нашага мінулага. Але толькі з далучэньнем Віцебшчыны да Беларусі пачалася пільная, уважлівая разборка архіўных фондаў і навуковая іх апрацоўка. Пачатак гэтаму быў палажаны вучонай архіўнай камісіяй. Мялешка і Шлюбскі трохі скарысталі архіўныя фонды пра сялянскія бунты. А ў леташнім годзе супрацоўнік архіву Я. Трахімовіч адшукаў архіўны фонд Беларускага Вольна-эканамічнага Таварыства з 1824 па 1843 год.

Гэты цікавы фонд высьвятляе працу першага краязнаўчага таварыства на Беларусі. Каля гэтага т-ва групаваліся больш адукаваныя сілы Усходу Беларусі і ўпяршыню на Беларусі было заведзена шматпольле і травасеяньне. Другі цікавы фонд высьвятляе водгукі 14-га сьнежня 1825 году на Беларусі. Трахімовіч знашоў сшытак вершаў К. Рылеева, пісаны, як можна думаць, яго ўласнаю рукою. Сшытак пачынаецца вершам „К Временщику" і канчаецца адбіткам прадсьмяротнага ліста Рылеева к жонцы. Вершы напісаны на шэрай паперы, вырабу тых часоў, у сшытак упісаны заметкі па географіі Паўночнай Амэрыкі. З першага разу здаецца, што гэта вучнёўскія запіскі, але, калі прыняць пад увагу службу Рылеева ў амэрыканскім гандлёвым таварыстве, то гэтыя заметкі прымаюць зусім іншы сэнс. Віцебскі „Дом Кнігі" скарыстаў гэты сшытак вершаў для выстаўкі ка дню паўстаньня дзекабрыстаў.

Рад другіх спраў: „Дела 1826 года—по представлению генерал-губернатора о тайных обществах. Об отыскании бежавших из мятежной шайки Муравьёва Апостола нижних чинов Черниговск. полка. Дело об отыскании рядовых, отлучившихся из разных полков гвардии", малююць разьвязаньне сьнежнеўскага паўстаньня 1825 году на абшарах „Белорусского генерал-губернаторства".

Другія справы сьведчаць аб вялікай старанасьці губэрскіх чыноўнікаў злавіць уцёкшых салдатаў Чарнігаўскага палка. Чыноўнікі пералавілі адзін другога—аб гэтым сьведчыць справа „о поимке 10 человек чиновников под видом коновалов" па Дрысенскаму павету; у 1828 годзе заведзена „дело по отношению личной переписки жены князя Трубецкого и о проверке их в г. Витебске".

1826 год быў надта непакойны для царскіх чыноўнікаў на Беларусі. Хваляваліся сяляне, непакойны былі раскольнікі гораду Віцебску. „Крамола" адчувалася ў настроях вучняў. У Полацку візітатар вучылішч Віцебскай губэрні праф. Сянкоўскі вылавіў у вучняў вышэйшага піарскага вучылішча „пасквільныя стыхі". Пачалося сьледзтва, якое цягнулася два гады. У тым жа Полацку схапілі нейкага князька з Даўгарукіх, які здаўся гэнэрал-губэрнатару з дзекабрыскіх злачынцаў сваім, відаць, князёўскім прозьвішчам.

Патаемныя таварыствы абхапілі значны абшар Беларусі. У Горадзеншчыне пашырылася таварыства „Военных Друзей". У склад яго ўваходзілі і беларускія жанчыны са шляхты. Члены гэтага таварыства афіцэры Ігельстром і іншыя паднялі ў 1826 годзе паўстаньне ў Беластоку. Шмат арыштаваных афіцэраў было і ў іншых гарадох Беларусі. Былі палітычныя вязьні ў Дынабурскай крэпасьці. А ў г. Магілеве „Белорусском" засядала асобая сэсія царскага суда, якая судзіла паўстанцаў на поўдні Расеі.

Дрэнна адчувала сябе сялянства, яго замучылі фурманкамі пад начальства і „дзяржаўных злачынцаў". Навет „міністэрства замежных спраў" клапацілася аб „заготовке лошадей для государственных преступников".

Агіда бярэ ад тае няпраўды, якую падае „Słowo“ аб тым, што Наваградзкі пав. мае дзьве часткі адбудованымі, а толькі трэцяя—не, ды, што „школу польскую вельмі мы кахаем“. — На дзеле нешта зусім адваротнае. Як мы кахаем польскую школу, хай спытаюць таго ўрадоўца, што прыяжджаў нас „увещевать“.

Самаволя паноў—безгранічная. Так, абшарнік граф Путкаммэр, ратуючы свой маёнтак ад парцэляцыі, зрабіў з свайго балота рыбнае возера, і заліў балота свае і нашае, — каровы і коні ня могуць хадзіць на выгане і некалькі навекі засталіся ў вытвараных транцавах. Цяпер вада пашла па дарозе і заліла м. Карэлічы. І аказваецца, што рабіў ён без дазволу!

**Беларус.**

## Няўдача пэпэсаў.

(У Баранавіцкім павеце).

17./I. 1926 г. у вёску Пастарыне, Сталавіцкай гміны, прыехаў з Баранавіч які-то асаднік, па прозьвішчу Махай, папрасіў у солтыса, каб сабраў сход, і пачаў на сходзе ўгаварваць людзей, каб запісваліся ў партыю пэпэсаўцаў; казаў, што будзе вельмі добра, што ўся зямля ад памешчыкаў будзе раздана на бедных земляробаў і г. д. І ўсё-такі напасьледку ўдалося ўгаварыць 14 чалавек, каторыя паверылі яго абяцанкам і запісаліся ў партыю, і навет пяць з іх заплацілі па паўтара злота за партыйныя паспарты.

З грамады свае выбралі камітэт, прадсядацелем каторага запісалі маладога 26 гадоў хлапца Івана Шчэрбацэвіча. Але, хоць малады, талковы і разьбітны малец, бо, пабыўшы адзін тыдзень прадсядацелем ды пачытаўшы іх газэты, адразу пазнаў, што гэта абман, што гэта мышалоўка для цёмнага беларуса, і ў другую нядзелю 24 студзеня, сабраўшы ўсіх сяброў партыі, растлумачыў ім, што гэта такое, напісаў заяўленьне да таго асадніка, і ўсе падпісаліся, што ня хочам вашых партыяў. Забраўшы ад іх атрыманыя партыйныя пашпарты разам з заведамленьнем, аднёс таму асадніку, што той вельмі не залюбіў і назваў іх дурнямі, але нічога ня мог зрабіць—мусіў прыняць.

Маладзец быўшы прадсядацель камітэту, вёскі Пастарыня! Хоць улез у мышалоўку пэпэсаўцаў, але сумеў выскачыць і выпусьціць сваіх сяброў!..

**Месны.**

## „Пэпэсы з эндэкамі злучайцеся“!

(М. Сіняўка).

Пэпэсы хочуць мець пасольскія мандаты пры новых выбарах галасамі беларусаў, каб потым прадаваць беларускую справу з соймавай трыбуны. Прыехалі яны і да нас на торг і пачалі прадаваць расейскую газэту „Красное Знамя“. Нехта купіў „Красное Знамя“, і там пішацца „пралетарыі ўсіх краёў злучайцеся“. Адзін з сялян і кажа пэпэсу: „ляпей напісалі-б вы пэпэсы з эндэкамі злучайцеся“, бо ж вы з панамі ды эндэкамі злучыліся і прадаеце сялянскую і работніцкую справу!“. Пэпэсавец якісь час апраўдываўся, але сяляне як сыпнулі, — прыпомнілі яму і „языковыя законы“ і „зямельную рэформу“ і „асадніцтва“,—так пэпэсавец страціў грунт, забраў манаткі і, не залажыўшы камітэту,—уцёк.

Кажуць, паехаў да Варшавы. Ну, і туды яму дарога!..

**Янка Есіс.**

## Вобыскі.

(М. Мір).

З 27 на 28 лютага ў м. Міры былі парасклеіваны камуністычныя адозвы. Пасьля гэтага,—як заўсёды ў нас бывае,—адбыліся вобыскі;—трэсьлі Парафімовіча Янку, але нічога не знайшлі, і на гэты раз абыйшлося бяз арыштаў.

**Маркотны.**

## „Бальшавікі“.

(Вёскі Гаркавічы і Юраўляне, Адэльскае гміны Сакольскага пав.).

Вёскі нашы спалены вайной, — нашае дабро парасьцягана. Вярнуўшыся з Расеі — з бежанства, мы пачалі адбудоўвацца. Трохі нам памагала ўлада,—давала дзерава, але нам усё давалі горшае — сухапастой, ды прытым ёлку. Гэтак даволі,—цяпер і купіць немагчыма. Калі давалі, то, каб дастаць,—трэба было схадзіць разоў дзесяць да гміны і прапаіць гэтулькі-ж бутэлек гарэлкі. Цяпер навет купляючы дрэва на апал, мусіш браць тое, што даюць.

Гэтак я, патрабуючы дроў, паехаў у лес. Лясьнічаму заплаціў 2 зл. 80 гр. і атрымаў квіт — ня бачучы дзерава, бо мусіш браць, што прадаюць. Пасьля лясьнік мне паказвае гнільлё, — я адмовіўся ўзяць і патрэбаваў лепшага; — з мяне трэбавалі за лепшае яшчэ 1 злот, я ня меў; хацеў атрымаць назад грошы, ды мне не аддалі, і я ні з чым паехаў да хаты.

Па дарозе я нагнаў аднаго жыхара з в. Сукавічы, які вёз здаровую сырую сосну за якую плаціў па 8 зл. за мэтр. Пытаюся ў яго, чаму гэта так ім танна дастаецца, бо калі з нас хто хоча купіць, то можа толькі сухапастой і то па $9^1/_2$ зл. Мой падарожнік спытаўся, скуль я,—кажу—з Гаркавіч. Ен і рукой махнуў—кажа: „Ясна чаму!“. Кажа—рэфэрэнт па адбудове ў Саколцы сказаў, што Гаркавічы і Юраўляне „бальшавікі“, і таму добрага дрэва не дастануць.

Ну — папаў у „бальшавікі і прапаў занішто. А чаму „бальшавікі“? хто іх ведае,—ці таму, што нашыя вёскі вялікія?—ці таму, што — бедныя? ці таму, што праваслаўныя? Ня ведаем! Куды ні кінься, усюды вялічаюць „бальшавікамі“,—і ў гміне, і ў месце, у розных „urzędach“. Жыцьця няма, няма праходу. „Бальшавік“ і такая табе чэсьць і месца.

Дык мы самы „бальшавікі“, погань, а грошы нашы, дык нічога — толькі давай, тут ужо „бальшавіцкасьці няма. Падаткі з нас бяруць яшчэ як! І колькі іх — ня зьлічыш. А не заплаціў, ці спазьніўся, дык апошнюю карову, гаўцу ці сьвіньча забяруць, прададуць за бясцэн, і нічога ня зробіш, пажаліцца некуды, бо ты „бальшавік“.

Гаруем, працуем, але ня трацім надзеі на лепшую будучыню, верым, што пройдуць злыя гадзіны, што настануць часы праўды, дабра, справядлівасьці, агульнага шчасьця. Верым, што „загляне сонца і ў нашае ваконца“!..

**Мала-вучоны.**

## З жыцьця вучыцялёў.

(М. Гарадок).

Кіраўнічка „паўшэхнай“ школы ў Гарадку Вялейскім—вядомая шавіністка, старая пад 40 гадоў дзева Часьніцкая, ня маючая вучыцельскай кваліфікацыі праз увесь час істнаваньня ў Гарадку польскай школы зьдзекуецца над нашым старым вучыцелем беларусам Кісялевічам, які старанна вучыць нашых дзяцей у працягу больш 30 гадоў і маець аж тры кваліфікацыі. Пасьля лекцыяў у Гарадку, Кісялевіч што-дня мусіць хадзіць вучыць дзяцей у вёску Семярнікі за дзьве вярсты ад Гарадка. Летась яго змушалі агітаваць за польскую школу ў вёсках, якія складалі дэкляранцыі на беларускую школу. Увосень вылічылі з яго ў працягу 3-х месяцаў па 40 злотых за кватэру ў памяшчэньні школы. А дробных зьдзекаў і пералічыць трудна. Усе зьдзекі Кісялевіч з болем сэрца перанёс, а з апошнім паходам проці яго з боку Часьніцкай не згаджаецца. Справа ў тым, што Часьніцкая стала змушаць Кісялевіча, каб дабравольна памяняўся мейсцамі з маладым вучыцелем з Дровашаў. Пакорны дагэтуль Кісялевіч нарэшце ўпёрся—ня хоча мяняцца дабравольна, кажучы, што ня пойдзе з Гарадка аж пакуль ня прыкажа вышэйшае начальства. Але можна наперад сказаць, што, калі Часьніцкая зробіць захады перад начальствам аб пераводзе Кісялевіча ў Дровашы, то напэўна беднага Кісялевіча перавядуць, бо Часьніцкая надта выслужылася перад начальствам сваім шалёным шавінізмам і мае вялікія „ўплывы“.

**Недалёкі.**

# З Радавае Беларусі.

## Вынікі перавыбару саветаў Беларусі.

2 га сакавіка пераабрана саветаў—1182, ці 97,1 проц. Брала ўдзел выбаршчыкаў — 47 проц., брала ўдзел жанчын—22,9 проц. Выбрана сяброў — 17.988, з іх: камуністаў — 1.565, ці 8,7 проц., камсамольцаў — 1.723, ці 9,6 проц., беспартыйных — 14.695, ці 81,7 проц., У гэтым ліку жанчын—1.527, ці 8.5 проц., мужчын—16.461, ці 91,5 проц.

Беларусаў — 16.387, ці 91 проц., велікарусаў — 295, ці 1,7 проц., палякаў—401, ці 2.2 проц., жыдоў—656, ці 3,6 проц., латышоў—132, ці 0,8 проц., іншых нацыянальнасьцяў—117, ці 0,7 проц. У тым ліку інтэлігентаў—488, ці 2,7 проц.

## Пачатковыя школы.

Народны Камісарыят Асьветы ўхваліў адчыненьне новых вясковых школ (па 40 вучняў на камплект) з такім разьлікам, каб школы ахапілі вучняў ва ўзросьце ад 8 да 11 год — у 1926-27 г. на 68 проц., а ў 1927-28 г.—на 71 проц.

Усяго намечана адчыніць новых камплектаў у 1926-27 г. па 10 акругах—484, у 1927-28 г. — 507; новых будынкаў для 2 х камплектных школ у 1926-27 г. мае быць пабудавана 88, у 1927-28 г.—160.

Народны Камісарыят Асьветы вызначыў адчыніць у 1926-27 годзе сямёхгодкі ў тых раёнах, дзе іх яшчэ няма.

Адначасна маецца на ўвазе арганізацыя з 1926—1927 г. пры раённых сямёхгодках інтэрнатаў для вучняў раёну.

## Тры беларускія тэатры.

З будучага бюджэтнага году на тэрыторыі БСРР будуць працаваць тры беларускія дзяржаўныя тэатры: беларускі дзяржаўны тэатр — у Менску, беларуская дзяржаўная студыя — у Віцебску і вандроўная трупа (Галубка).

## Помнік К. Каліноўскаму.

Гістарычны аддзел Ц.К. К.П.Б. заказаў скульптару Губэру зрабіць праект помніка вялікаму беларускаму паўстанцу Костусю Каліноўскаму „дыктатару Літвы“ ў часе паўстаньня 1863 году.

# Усячына.

## Магіла фараона Сэнэфру.

Амэрыканскі вучоны Рэйснэр знайшоў магілу „вялікага фараона“ Сэнэфру, які ў свой час — 7.000 год назад — быў магутным уладаром вялікіх абшараў сьвету. Ён пачаў будоўлю пірамідзы Хэопса і залажыў фундамант яшчэ аднэй з гіганцкіх пірамід.

Новая знаходка раскрывае многа новага з гісторыі Эгіпта.

## Сеткі для лову аэрапляпаў.

Японскае вайсковае міністэрства нядаўна зрабіла вопыты з ужываньнем лёгкіх паветраных сетак, прымацованых да парашутаў для барацьбы з аэраплянамі. Парашуты з нацягнутай між імі сеткай, выкідаюцца ў зложаным выглядзе са спэцыяльных гармат. Узьляцеўшы на значную вышыню, яны пачынаюць падаць, раскрываюцца і, пасьля гэтага, ціха апускаюцца ўніз, заплутваючы сеткай прапэлер аэраплана.

## Рэкордная хуткасьць цягніка.

У Амэрыцы цягнік прашоў ад ст. Гармон да ст. Чыкага ў $22^1/_2$ гадзіны.

Даўжыня пуці паміж гэтымі станцыямі па лініі чыгункі складае 946 міль (каля 1.430 вёрст).

## Новы мэталічны сплаў „пэрмалёг“.

Гэта—сплаў жалеза (78,5 проц.) з нікелем (21,5 проц.). Ён вызначаецца высокай магнэсавай пранікальнасьцю. Гэта якасьць надта каштоўна пры пракладцы падводных кабляў, дзе патрабуецца павялічэньне магнэсавай індукцыі. Такім чынам пралажан кабель ад Нью-Ёрка на адлегласьць 2.300 марскіх міль і перадае 1.700 літар у мінуту ў адным напрамку.

## Новая цікавая расьліна.

У Інда Кітаі нядаўна знайшлі адну важную для тэксьцільнай прамысловасьці расьліну, валокны якой дасягаюць 40 сантымэтраў даўжыні.

Новая расьліна служыць для вырабу прыгожай і лёгкай жоўтай матэрыі. Асабліва гэтая расьліна цэнна ў сэнсе вырабу рыбалоўных сетак і катата́ў, бо валокны яе ня гніюць.

## Дагістарычнае насеньне.

У Маскоўскай і Кастрамской губ., у тарпяных падглебных плястох, якія геолёгі лічаць плястамі міжлёдавіковага пэрыяду, знойдзена насеньне рэдкай трапічнай расьліны—„пурпуравай бразініа“. Гэта расьліна цяпер расьце толькі ў трапічных краінах усходняе Азіі і Амэрыкі. Гэта цікавая батанічная знаходка сьведчыць, што паміж двума лёдавіковымі прыядамі паверхня сучаснай Сярэдняй і Паўночнай часткі СССР мела мягкі трапічны клімат.



Выдавец: Базыль Юшка.

Друкарня Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.